# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
# Наваполацкай Рады БНФ

№ 1 (01) жнівень - верасень 1998 г. Грамадска-палітычнае выданне Полацкага края

## Шаноўныя чытачы!

Сёньня Вы трымаеце ў руках першы нумар бюлетэню, выданьне якога распачала Наваполацкая Рада БНФ "Адраджэньне". Пробны – "нулявы" – нумар гэтага выданьня ўбачыў сьвет у траўні гэтага году і зараз рэдакцыя ўжо цалкам падрыхтаванай да сталай і рэгулярнай працы над бюлетэнем.

Спроба наладзіць выданьне гэткага кшталту ёсьць, на нашу думку, справай вельмі адказнай, асабліва зараз, калі насельніцтва нашай краіны знаходзіцца ізаляванай ад аб'ектыўнае інфармацыі аб падзеях на Беларусі і ў свеце. Менавіта запаўненьне гэтага "інфармацыйнага вакууму" і бачыцца першаснай мэтай нашага бюлетэню.

Рэдакцыя шчыра спадзяецца, што зьяўленьне нашага выданьня будзе станоўча ўспрынята чытачамі й адыграе пэўную ролю ў абудженьні нацыянальнай самасвядомасці беларусаў і пашырэньня ўплыву адраджэнскіх ідэяў сярод грамадзянаў нашае краіны.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ !

Рэдакцыя бюлетэня

## КДБ ідзе ў школу

Вельмі цікавая падзея адбылася 16 верасьня ў Баравухскае сярэдняе школе. Сярод усіх вучняў школы быў праведзены строгі адбор па прынцыпу "неблаганадзейнасьці". Каля 30 "неблаганадзейных" вучняў былі сабраныя ў актавай зале, дзе ім быў прадстаўлены супрацоўнік Полацкага КДБ, што вельмі хацеў аб нечым паразмаўляць зь імі.

"Цікавае" пачалося з таго самага моманту калі "гэбэшнік" назваў сваё імя. Ён прадставіўся як... Уладзімир Кунцевіч. (Вядома, школьнікі не маглі ведаць, што У.Кунцевіч на самой справе ёсць старшынёй Полацкае раённае Рады БНФ).

Далей прадстаўнік КДБ пачаў задаваць пытаньні, якія тычыліся бел-чырвона-белых сьцягоў, што апошнім часам пачалі даволі часта з'яўляцца ў Баравухе й навакольлі. Ён заклікаў школьнікаў, якія што-небудзь ведаюць ад гэтым адразу ж паведаміць яму. Высьветлілася, што нехта з вучняў бачыў людзей з бел-чырвона-белымі павязкамі на галаве. Аднаго зь іх "апазнаць не ўдалося", хаця гэта быў вядомы беларускі паэт Сяржук Сокалаў-Воюш, які ня так даўно наведваў Полаччыну. Другога ж "пазнаў" мой сын Зьміцер, які сьмела заявіў: "Гэта мой бацька!" Радасьці "гэбэшніка" пасля гэтага "прызнаньня" не было межаў і ён проста запытаў у хлопца: "А ці ўдзельнічаў твой бацька ў вывешваньні сьцягоў?", на што атрымаў спакойны адказ: "Без бацькоў я ня буду адказваць ні на якія пытаньні!" Супрацоўнік КДБ на гэтым не спыніўся і заявіў наступнае: "Если вы что-то увидите, услышите или узнаете от родителей – мой телефон у завуча: сразу звоните". Нумар, які ён падаў – 4-25-11, пры чым па гэтым тэлефоне трэба пытацца чамусьці не Уладзімера Кунцевіча, а нейкага Владислава Францевича.

Прапаную выказаць падзяку Полацкаму КДБ ад Наваполацкае Рады БНФ "Адраджэньне" за цікавую лекцыю для вучняў Баравухскае СШ аб дзейнасьці невядомых патрыётаў і рэкламу нацыянальных сымбаляў Беларусі.

Анатоль Каханчык

## Раней мы стаялі на плошчы

Нягледзячы на тое, што з моманту выхаду у сьвет нашага мінулага (нулявога) нумара прайшло шмат часу, мы вырашылі даць гэтую інфармацыю дзеля параунаньня сітуацыі у Наваполацку і Віцебску, якая склалася з правядзень-нямі акцыяў апазіцыі.

28-га траўня ў Віцебску адбыуся пікет у абарону Паўла Севярынца і Аляксея Шыдлоўскага. У якасьці арганізатарау выступіла гарадзкая Рада Маладога Фронту. Удзельнікамі гэтага мерапрыемства ўдалося



пабыць Старшыні Полацкай Раённай Рады БНФ "Адраджэньне" Уладзіміру Кунцэвічу і яго намесьніку Уладзіміру Гацкаму, якія ў згаданы вышэй дзень бралі удзел у семінары па праблемах сродкаў масавай

*Працяг на стар. 2, пад рубрыкай "Мы і дзяржава"*

## ІНФАРМАЦЫЯ

17 верасьня 1998 года адбыўся агульны сход суполкі №4 БНФ "Адраджэньне " Баравухскага сельсавету. На паседжаньні прысутнічалі чатыры дэлегаты.

На парадку дня разглядаліся тры пытаньні:

- абраньне старшыні суполкі;
- абраньне намесьніка старшыні суполкі;
- абраньне ўпаўнаважанага ў склад гарадзкой Рады БНФ " Адраджэньне ".

У выніку галасаваньня старшынёй первічнай арганізацыі быў абраны Алесь Бандарэнка. Яго намесьнікам стаў Анатоль Каханчык, які таксама будзе прадстаўляць Баравухскую суполку ў складзе Наваполацкай гарадзкой Рады.

13 верасьня адбылося паседжаньне Цантральнай Рады "Маладога Фронту ".

На ёй было прынята рашэньне аб скліканьні другога Сойму "Маладога Фронту", які адбудзецца ў лютым 1999 года.

Што датычыцца нашага рэгіёну, то на Ўправе было прынятае рашэньне пра новага куратара, які ўжо раней супрацоўнічаў з Наваполацкім адьдзелам " Маладога Фронту " і паказаў сябе чалавекам працы, а не пустых размоваў.

Сябра Цантральнай Рады " Маладога Фронту " ад Наваполацкага адьдзелу А. Мацук.

*Рэдакцыя "Інфармацыйнага бюлетэню" шчыра віншуе заснавальнікаў і сяброў Супольнасьці "Усяслаў Чарадзей", што нарэшце, пасьля пяцімесячных пакутлівых намаганьняў і блуканьняў па цьмяных калідорах беларускай юстыцыі яны здолелі зарэгістраваць сваю арганізацыю і здабылі статус юрыдычнай асобы 3 верасьня 1998 года.*

*Падрабязнасьці на 8-ай старонке*

## МЫ І ДЗЯРЖАВА

інфармацыі, што адбываўся у Віцебску.

Трэба адзначыць, што Віцебская выканаўчая ўлада ў адрозьненьне ад Наваполацкай вертыкалі вырашае пытаньні адносінаў з рознымі грамадзкімі аб'яднаньнямі і рухамі больш цывілізавана. Напрыклад, вышэйзгаданая акцыя адбывалася на шматлюднай вуліцы ў цэнтральнай частцы абласнога цэнтру. Пад час пікетаваньня адбываўся збор подпісаў з патрабаваньнем вызваленьня Паўла Севярынца, які незаконна ўтрымліваўся ў сьледчым ізалятары. Міліцыянты, якія прысутнічалі на мерапрыемстве паводзілі сябе тактоўна, прафесійна выконвалі свае абавязкі. Людзі ў форме досыць хутка лакалізавалі бойку, якую ўчынiў адзін з прадстаўнікоў так званага "электарату".



У цэлым пікет прайшоў арганізавана і выніковa, сьведчаньнем чаго зьявіліся шмат сабраных подпісаў за вызваленьне Паўла Севярынца і падтрымка грамадзянаў, якая была выказана ўдзельнікам пікету.

У той жа час Наваполацкі гарвыканкам, па незразумелых для нармальных людзей прычынах, забараніў грамадзянам правядзеньне мітынгаў, пікетаў і іншых мерапрыемстваў на тэрыторыі гораду, вызначыўшы месцам кавалак зямлі фактычна ў прыдзьвінскім хмызьняку, дзе толькі зрэдку можна выпадкова заўважыць чалавека.

З мэтай разрашэньня гэтай праблемы мела месца сустрэча са Старшынёй Наваполацкага гарвыканкаму таварышам Камаровым прадстаўнікоў Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". З размовы высьветлілася, што Старшыня гарвыканкаму не зьбіраецца ініцыяваць перагляд рашэньня па гэтаму пытаньню. Таму Наваполацкая Рада БНФ "Адраджэньне" зьвярнулася з афіцыйнай заявай, якую мы зьмяшчаем побач. Таксама зьмяшчаем і атрыманы нядаўна адказ гарвыканкаму, прычым захоўваем стылістыку і арфаграфію аўтараў.

Матэрыял падрыхтавалі Ул. Гацкі, Ул.Кунцэвіч

*Працяг тэмы чытайце на стар. 3 пад рубрыкай "АФІЦЫЙНАЯ ПЕРАПІСКА"*

## ВЕРТЫКАЛЛЮ ПА ГАРЫЗАНТАЛІ

Наваполацкі гарадскі выканаўчы камітэт

РАСПАРАДЖЭННЕ

Ад 10.09.98 № 603

г.Наваполацк

О мерах по обеспечению населения города товарами народного потребления.

В целях недопущения срывов в обеспечении населения города продуктами питания и товарами народного потребления, руководствуясь приказами Министерства торговли Республики Беларусь от 09.09.98г № 118, Управление торговли, общественного питания и потребительских товаров Витебского облисполкома от 09.09.98г №71, руководителям предприятий торговли и общественного питания всех форм собственности:

1. Осуществлять закупку в требуемых объёмах не производимых или недостаточно производимых в республике продуктов питания, других товаров и реализацию их по розничным ценам, сформированным с учетом складывающихся затрат и коньюктуры рынка.
2. Принять к безусловному исполнению нормы отпуска продовольственных товаров одному покупателю, установленные решением Витебского облисполкома от 09.09.98 №444 и Постановлением Совета депутатов и президиума облсовпрофа от 19.07.89 №263 соответственно. При отсутствии утвержденных норм отпуска в одни руки отдельных товаров не допускать продажу их физическим лицам крупными партиями. Обеспечить наличие информации для покупателей.
3. Реализацию социально - значимых товаров (сахар, крупа, макаронные изделия, мука, масло животное, сыры твердые, молочные консервы, масло растительное, мясные консервы, яйцо) производить в объёмах, не превышающих среднедневную реализацию, сложившуюся в июле 1998 года. Отделу торговли и сферы обслуживания исполкома в срок не позднее 11.09.98. разработать для каждого объекта розничной торговли среднедневные нормы продажи социально-значимых товаров. Определить порядок хранения товаров сверх дневных норм.
4. Продажу продовольственных товаров -- масла животного и сахара не производить в выходные дни. В будние дни реализацию сахара осуществлять с 17 часов.
5. Контроль за исполнением настоящего распоряжения возложить на первого заместителя председателя исполкома Нияковского А.М.

ПРЕДСЕДАТЕЛЬ ИСПОЛКОМА А.В. КОМАРОВ

*Пазнаёміцца са сьпісам сацыяльна-значных тавараў кожны пакупнік можа непасрэдна ва ўсіх крамах гораду. Там вы можаце даведацца аб колькасьці прадуктаў, якія дазволена атрымаць у адны рукі, але гэта ня ўсё. Днямі адбыўся чарговы прарыў у сыстэме адміністрацыйна-камандната кіраваньня савецкім гандлем.*

*Вось ён, самы цікавы дакумант, які вы ня ўбачыце на дошцы "Уголок покупателя"*

"УТВЕРЖДАЮ "

Заведующий отделом торговли и сферы обслуживания Новополоцкого горисполкома

Т.С. Молоток.

Средневзвешенные нормы реализации социально-значимых товаров для магазина №_______.

| Наим.товара | Ед.изм. | Кол-во |
|---|---|---|
| 1. Сахар | кг | ________ |
| 2. Крупа | кг | ________ |
| . | | |
| . | | |
| . | | |
| 10 Яйцо | шт | ________ |

*Менавіта гэтай паперай абмяжоўваецца колькасьць прадуктаў харчаваньня, якія крамы павінны адпускаць спажыўцам. І калі пэўнай краме дазволена прадаваць, напрыклад, 200 кг цукру, ці 300 дзясяткаў яек, то, шаноўная грамада, пасьпяшайцеся – лемiт, бо магчыма Вашы яйкі ўжо проданы!!!*

*Да ўсяго, ўявіце сабе, радасьць гандлёвага дырэктарату, якім проста забараняюць зарабляць грошы.*

*Пра цябе, спажывец, нястомна клапоцяцца дзесячы вертыкальных прастораў!!!*

ПРАВІЛЬНОЙ ДОРОГОЙ ИДЁТЕ ТОВАРИЩИ!"

Матэрыял падрыхтаваў Ул. Гацкі

## АФІЦЫЙНАЯ ПЕРАПІСКА

БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ФРОНТ "АДРАДЖЭНЬНЕ"
Наваполацкая гарадзкая Рада
а/с 45, Наваполацк-6,
211440
16.07.98г.

Старшыні Наваполацкага
гарадзкога выканаучага
камітэту А.В.Камарову

З А Я В А

14.03.97г. Наваполацкім гарвыканкамам было прынята рашэньне N°187 "Об определении постоянного места для проведения собраний, митингов, уличных шествий, демонстраций и пикетирования", згодна якога месцам для вышэйназваных мерапрыемстваў быў прызначаны гарадзкі парк культуры і адпачынку.

Агульнавядома, што вышэйзгаданы парк знаходзіцца у месцы, якое мала наведваецца грамадзянамі, асабліва у дрэннае надвор'е і халодны перыяд года, што робіць фактычна бессэнсоўным правядзеньне вышэйзгаданых мерапрыемстваў.

Наваполацкая Рада БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ" лічыць, што прызначэньне такога месца пастаянным для правядзеньня дэманстрацыяў, мітынгаў і пікетаваньняў сьвядома пазбаўляе грамадзянаў магчымасьцяў публічна выказваць уласныя думкі і меркаваньні на грамадзкія і палітычныя падзеі, што зьяўляецца сродкам барацьбы з іншадумствам, грубым парушэньнем правоў і свабодаў грамадзянаў, якія гарантуюцца Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

У сувязі з гэтым Наваполацкая Рада БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ" патрабуе перагляду дадзенага рашэньня.

Старшыні наваполацкай
гарадской рады
ПАЎЛОВІЧУ В.

На вашу заяву ад 12 ліпеня1998г. Наваполацкі гарадскі выканаўчы камітэт інфармуе, што у адпаведнасці з законам Рэспублікі Беларусь "Аб сходах, дэманстрацыях і пікетаваннях" мясцовым выканаўчым органам вызначана пастаяннае месца для правядзння дадзеных мерапрыемстваў (рашэнне выканкама ад 14 сакавіка 1997г. №187), зыходзячы з мэты нармальнага функцыянавання транспарту, прадпрыемстваў і установ горада. З прычыны таго, што намаганнямі гарадскога жыллёва-камунальнага аб'яднання ў 1998г. будзе праведзена добраупарадкаванне і перапланіроўка гарадскога парку культуры і адпачынку, месца для правядзення вышэйназваных мерапрыемстваў будзе зменена.

Старшыня выканкама
А.У.Камароў

## ПАВЕДАМЛЯЕМ

### ПРЭС-РЭЛІЗ Наваполацкай Рады БНФ "Адраджэнне"

3-га верасьня 1998 года група жыхароў г.Наваполацка сабралася пасьля працоўнага дня у раёне мясцовага стадыёна "Атлант", каб абмеркаваць свае надзённыя праблемы, асабістае жыццё і маючыя адбыцца мерапрыемствы па сьвяткаваньню 40-годьдзя свайго гораду. Пры гэтым людзі, якія сабраліся, не парушалі грамадзкі парадак і тым больш -- ніводзін з артыкулаў Канстытуцыі РБ.

Прыблізна у 19.50 мясцовага часу да групы падыйшоў нарад супрацоўнікаў МУС на чале з малодшым сержантам міліцыі Шупейка, які прадставіўся, але зрабіў гэта невыразна, што не дае ўпэўненасьці ў дакладнасьці пададзенага прозьвішча. Ён выказаў сваё незадавальненьне наяўнасьцю вялікай колькасьці людзей і патлумачыў гэта фразай: "Больше трёх не собираться!" Присутныя адказалі міліцыянту, што не парушаюць дзеючага заканадаўства, і запатрабавалі абгрунтаваць ягоныя прэтэнзіі. Міліцыянт пачаў паводзіць сябе нахабна, аб чым сьведчыць наступныя ягоныя фразы: "Откуда я знаю, может вы переворот тут делаете? Не дай бог вы будете здесь какие-то флаги вывешивать или появятся какие-нибудь надписи!" Пры гэтым патлумачыць сэнс словаў "переворот", "какие-то флаги" і "какие-нибудь надписи" і абгрунтаваць свой зварот з гэтымі словамі менавіта да гэтай групы грамадзянаў ён адмовіўся. Асабліва вострую рэакцыю з боку супрацоўніка міліцыі выклікалі словы прысутных аб тым, што яны з'яўляюцца СВАБОДНЫМІ ЛЮДЗЬМІ. Ён страціў кантроль над сваімі дзеяньнямі і ў павышаным тоне запытаў: "Кто тут свободный человек?" Зразумела, што ўсе прысутныя прызналі сябе свабоднымі людзьмі, на што супрацоўнік міліцыі, зьвярнуўшыся асабіста да аднаго зь іх, адказаў наступным чынам: "А хочешь, ты будешь сидеть на новополоцкой зоне? Это я могу устроить! Там тебя в пять минут "петухом" сделают!"

Пасьля гэтае відавочнае абразы прысутныя запатрабавалі, каб ён зноў прадставіўся, на што пачулі яшчэ адзін грубы адказ: "Если у вас у всех тут плохо со слухом, я не виноват, и не намерен повторять свою фамилию". Пасьля гэтага супрацоўнікі МУС сыйшлі, пакінуўшы прысутных без аніякіх тлумачэньняў.

Трэба заўважыць, што сярод прысутных пераважалі маладыя людзі 20-25 гадоў, якія знаходзяцца на самым пачатку актыўнага грамадзкага жыцьця. Узьнікае пытаньне: якое ўражаньне аб стане справаў у нашай краіне яны атрымаюць, калі закон зьневажаюць нават людзі, што мусяць яго абараняць.

Наваполацкая Рада БНФ "Адраджэньне" засяроджвае ўвагу грамадзкасьці на відавочнае парушэньне правоў асобы і дзеючага заканадаўства з боку супрацоўнікаў праваахоўных органаў і выказвае ў сувязі з гэтым свой рашучы пратэст.

*03.09.98г.*

*Прэсавая служба НР БНФ "Адраджэньне"*

## НАШ БОЛЬ

*Шаноўныя чытачы "БЮЛЕТЭНЯ"! Прапануем Вам матэрыял прыватнага адваката Леаніда Сапранецкага. На вялікі жаль, мы не маем магчымасьці надрукаваць яго цалкам і таму публікуем яго са скарачэньнямі.*

# АПАЛЕНЫ БЕЗЗАКОНЬНЕМ

У 1978 годзе Аляксей Іванавіч прыйшоў на сьледчую працу ў адну з раённых пракуратураў. Ужо праз два гады ён - сьледчы абласнога ўпраўленьня. Яшчэ праз два гады - сьледчы па асабліва важных справах.

Гэта зараз "важнякоў" разьвялося як мух на сьметніку, а ў тыя гады гэта была блакітная мара любога сьледчага.

Сьпецыялізаваўся А.Філіпчанка па мярзотніках у мундзірах: "мянтах", пракурорах, судзьдзях, ды яшчэ ўладатрымальніках, якія блыталі свае кішэні з чужымі. Аднымі зь першых ягонымі "кліентамі" былі два старэйшых афіцэра сьпецкіраваньня МУС СССР, якія сумяшчалі кіруючыя пасады з хабарніцтвам.

Прафесіяналы вышэйшага класу казалі аб ім з высокай павагай. Сьледчых з такой характарыстыкай па пальцах пералічыць можна, сёньня такіх, відаць, ужо няма. Усіх вынішчылі, як мамантаў. Таму і бардак, прабачце, у дзяржаве.

З 1966 года "важняк" А.Філіпчанка – сябра сьпецыяльнай сьледчай брыгады Пракуратуры СССР, якая займалася высьвятленьнем, як і чаму праваахоўныя органы і суды Віцебскай вобласьці і Беларускай ССР умудрыліся пятнаццаць гадоў запар садзіць (і нават растрэльваць) аднаго за другім невінаватых людзей за прадзелкі маньяка Міхасевіча. Пераканаш: з часу працы тае брыгады і вядзе адлік палымянае "каханьне" абарыгенаў-законьнікаў да А.Філіпчака.

Прадметам асаблівай незадаволенасьці й болю былога "важняка" стала грамадзянская справа па абароне жыльлёвых і маёмасных правоў і законных інтарэсаў Заслужанага будаўніка і персанальнага пенсіянера Рэспублікі Беларусь Антаніны Уладзіміраўны Воранавай. Менавіта да няўдачы па гэтай справе імкнуцца зьвесьці ўсё тыя, хто жадае надаць вогненай трагедыі ў Наваполацку бытавую афарбоўку. Таму на гэтай справе нельга не спыніцца больш падрабязна.

У 1969 гдзе А.Воранава была прымірована ільготнай чаргой на атрыманьне двухпакаёвай кватэры. Застаўшыся бяз мужа, жыла ў ёй з дачкой і маці. З часам другі раз узяла шлюб, але ... зноў адна – развод. Няма сэнсу пералічваць пабоі, зьнявагі й прыніжэньні, якія яна панесла ад другога абраньніка. Але яе прымак "рождён был хватом": узяў ды адсудзіў сабе адзін пакой, які потым абмяняў з некім Ярмаковым В.Б.

А.Воранава пратэставала, скардзілася, судзілася... Але закон быў не на яе баку. І 18 лютага 1993 года ў пакоі, які раней належыў заслужанаму чалавеку, зьявіўся новы гаспадар, які ў пазначаны дзень атрымаў абменны ордэр, а на наступны - перавёз рэчы. Перавёз і .... зьнік. Ды так нечакана, што нават не заключыў дагавор найму, кватэрплату ня ўносіў, камунальныя паслугі таксама ня аплочваў, абавязкі па захаваньню атрыманай маёмасьці не выконваў. Ну, які уладальнік жылога памяшканьня у такіх умовах будзе трываць гэткага кватэраздымальніка? А тут яшчэ жыхары зь ніжэйшага паверху скаргу напісалі, што з зачыненага пакою іх залівае (кран прахудзіўся). І 22 верасьня 1993 года, гэта значыць больш чым праз сем месяцаў пасьля атрыманьня абменнага ордэру і перавозу рэчаў, камісія ЖКА трэсту 16 "Нафтабуд" ускрыла пакой і выявіла ня толькі кран, што прахудзіўся, але адчыненае вакно са згнілымі створкамі, а ўвесь пакой быў засланы слоем пылу. Праз яшчэ два месяцы, г.з. 29 лістапада 1993 года, уладальнік жыльля зьвярнуўся ў суд аб прызнаньні Ермакова В.Б. асобай, якая страціла правы на жылплошчу.

Вось што паказаў суду Ермакоў В.Б. 17.12.93г. (т.1 л.д.22, 23): У кватэру не засяліўся па дзьвух прычынах: па-першае, у мяне зарэгістраваны шлюб у 1991годзе і я жыву з жонкай па вуліцы Блахіна, а у пакой па вуліцы Калініна мяне прапісалі аднаго( як прасіў Л. С.), засяліцца туды з жонкай і дзіцём ня мог. Па-другое, мне перашкаджала засяліцца і пражываць суседка Воранава... Яна мне пагражала расправай, адабрала ў мяне ключы. Я не адмаўляю, што па адрэсе Калініна 9-30 я не пражываў ніводнага дні...



Кватэрплату я не плаціў...Ня ведаю, плоціць яна (жонка Л. С. ) ці не."

Як бачна, другая прычына , па-першае, названая другой, па-другое, па сутнасьці зьяўляецца "давескам" і ніяк не зьвязаная зь першай і ніяк не выплывае зь яе. Асноўная ж прычына абумоўлена натуральнай зьявай: у супругаў дзьве жылыя плошчы і, натуральна, яны жывуць на адной – не скасоўваць жа дзеля гэтага шлюб.

На наступным паседжаньні 27.12.93 г. Ермакоў В.Б. скажа суду (т.1 л. д.38, 39) : "Пацьвержваю свае паказаньні, дадзеныя на мінулым судовым паседжаньні,"- і дадасьць,- " 5 сакавіка 1993 года я аддаў Воранавай ключы, дакладней яна ў мяне іх адабрала. Гэта была зьвязка ключоў, чатыры ключы.

Там былі: ключ ад уваходных дзьвярэй, паштовай скрыні і два ключы ад пакою.

Да ўчастковага па дадзенаму пытаньню я не зьвяртаўся. Я яе баяўся".

Суд вырашыў увайсьці ў спрэчны пакой і аглядзець яго. Перад дзьвярыма суддзя сказала:"Паколькі ключоў няма – будзем ламаць".Ермакоў В.Б. запамятваў, напэўна, што казаў у судзе, і, дастаўшы з кішэні зьвязку ключоў адчыніў дзьверы.

На прапанову суда прадставіць іх для агляду і праверкі на наяўнасьць ключа ад пакоя адказаў маўклівай адмовай і паклаў зьвязку ў кішэню.

Суд задаволіў іскавыя патрабаваньні ЖКА трэста 16 "Нафтабуд" і прызнаў Ермакова В.Б. асобай, якая страціла права на жылплошчу. Касацыйная інстанцыя прызнала рашэньне суда абаснаваным.А што ім заставалася рабіць пры наяўнасьці такіх справаў?

*Працяг на стар. 5*

У адпаведнасьці з жыльлёвым заканадаўствам вызвалены пакой выдзелілі Воранавай А.В., якая згодна ўсім патрабаваньням закону ад 5 ліпеня 1994 года прыватызавала кватэру,якая ёй дасталася, узгадаю, у якасьці ўзнагароды за асаблівыя заслугі перад горадам і Беларусьсю ўвогуле.

Праз 23 месяцы калегія па грамадзянскім справам Віцебскага аблсуда прызнала прыватызацыю несапраўднай і ўсяліла Ермакова В.Б. у пакой, адрамантаваны, прыбраны, прыведзены ў боскі выгляд стаміўшайся ад нягодаў (неяк Воранава сказала: "Я прайшла праз 80 судоў!!! " ) пенсіянеркай, якая разам са сваім прадстаўніком А. Філіпчанка сцьвярджаюць:, рашэньне незаконна, таму-што прынята з дапамогай зацікаўленных у выніку службовых асобаў. І ня думаць так яны не маглі, таму што судовыя чыноўнікі зрабілі ўсё, што б яны так думалі.

Колькі б разоў не перачытваў рашэньне судовай калегіі, уражаньне застаецца адно: для абгрунтаваньня яўна несправядлівага, а значыць незаконнага, рашэньня калегія літаральна камбінавала доказы сваіх высноваў, ідучы, часам, на адкрытую хлусьню ў форме замоўчваньня ісьціны. Абгрунтоўваючы, напрыклад, сваё рашэньне, калегія піша ў ім: "...апытаныя сьведкі Бандарчук А.Л. і Воранава А. І. растлумачылі, што сапраўды Ермакоў В.Б. уваходныя дзьверы ключамі не адчыняў (маюцца на ўвазе дзьверы ў кватэру, а не ў пакой -- Л.С.). Але ж гэтыя сьведкі казалі яшчэ ( і ў большай колькасьці ) і аб іншых фактах, якія больш вартыя па справе, чым гэты. Напрыклад аб тым, што Ермакоў В.Б. адмовіўся даць суду для апазнаньня звязку ключэй, якую, нібыта, адабрала ў яго Воранава А.В. . Чаму калегія не вызначыла ў рашэньні аб гэтых паказаньнях і не дала ім пэўную ацэнку? Чаму яна верыць заяве Ермакова В.Б. аб тым, што "...ніхто з суда не прасіў мяне паказаць ключы. Гэта проста нікому не было патрэбна." ( т.2 л. д. 160-об ). Ня верыць судьдзе, іншым удзельнікам працэсу, і пытае у Ермакова В.Б. : " А вы прапаноўвалі суду аглядзець вашу звязку, каб ні ў кога не было сумненьняў? " Чаму калегія паказала ў сваім рашэньні, што "...паказаньні сьведкі ...Новікавай А. М., сьведчаць аб тым, што Ермакоў В.Б. не пражываў у кватэры, якая аспрэчваецца" і не паказваюць на прычыны яго непражываньня ў кватэры" і ня сьведчыць аб тым, што журналіст Новікава А.М. паказала калегіі, што, рыхтуючы матэр'ял да публікацыі, яна некалькі разоў сустракалася з Ермаковым В.Б. і шчыра зь ім размаўляла. І ён казаў ёй, што ніякіх прэтэнзіяў да Воранавай А.В. ня мае і ў пакоі жыць не збіраецца, т. я. яго жонка хутка атрымае кватэру? Чаму калегія не рэагуе на заяву Ермакова В. Б., што : " такая размова мела месца, але не была шчырай"(т.2 л.д. 61-об ).

*Аляксей Іванавіч Філіпчанка нарадзіўся 6 лістапада 1949года ў Кемераўскай вобласьці Расійскай Федэрацыі. Мае двух сыноў 19 і 13 год. Прафесійны юрыст з дваццацігадовым стажам. Быў сьледчым па асабліва важных справах. Пасьля скачэньня працы ў групе па расьследаваньню сумна вядомай "Віцебскай справы" па затрыманьню маньяка-гвалтаўніка звольніўся з праваахоўчых органаў і заняўся прыватнай юрыдычнай дзейнасьцю. Памёр 31 ліпеня 1998 года.*

Чаму калегія прыняла хлусьню Ермакова В. Б., якую не прынялі тры гарадзкіх суды? І такія "чаму" калегіі можна задаваць дзясяткамі.

І я не губляю надзеі, што калі-небудзь "важняк", накшталт А. Філіпчанкі, задасьць іх па якой-небудзь новай "віцебскай" справе.

І нельга тут не ўзгадаць аб галоўнай выснове судовай калегіі: "Судовая калегія лічыць, што Ермакоў В. Б. у вышэй выкладзеных абставінах, якія паказваюць на тое, што ён ня мог карыстацца пакоем, які яму належыць, быў вымушаны пражываць па месцу жыхарства жонкі.

А гэта выснова – нішто іншае, як судовая ацэнка жанчыне, з якой муж , атрымліваецца, вымушаны быў жыць па патрэбе. І каб не Воранава А.В., то не яна гнала б яго ў карак, а ён бы сам не застаўся зь ёй ні на хвіліну. Вось так! А мне небараку здавалася, што муж з жонкай жывуць пад адным дахам і сьпяць пад адной коўдрай па зусім іншых матывах, толькі таму, што гэта ёсць натуральным. Ненатуральным ёсьць адваротнае, калі супругі жывуць асобна, няхай нават у асабістых кватэрах ці пакоях.

Так думаў і Ермакоў В.Б., калі даваў шчырыя паказаньні на першым судзе. Гэта потым, мяркуючы па ўсім, разумныя людзі яму падказалі, што трэба казаць у судзе, а што ня трэба. І калегія прыняла да ўвагі тое, што трэба для вынясеньня патрабуемага рашэньня, праігнараваўшы аб'ектыўныя ісьціны, абставіны і іншае.

Што ж , такія паводзіны суда цалкам упісваюцца ў рэжым беззаконьня і праізволу, якія А. Філіпчанка па сваёй сутнасьці не хацеў і ня мог прыняць.

Пасьля вынясеньня судовай калегіяй рашэньня аб адмене прыватызацыі і аб ўсяленьні Ермакова В.Б. у адняты ў Воранавай А.В. пакой , у зацягнуўшыйся працэс па просьбе апошняй уключыўся А. Філіпчанка, так што працэс ён не прайграваў.

Былы сьледчы адразу ж заўважыў адну недарэчнасьць: у жыльлёвым заканадаўстве няма разуменьня "ўсяленьне ", рашэньне аб якім было прынята

Менавіта па прычыне адсутнасьці такога закона калегія, хоць і вызначыла ў сваім рашэньні, што кіруецца артыкуламі ГПК , тым ня меньш у іх парушэньне яна не абазначыла "які закон павінен быць прыменены па дадзенай справе " і якім законам "суд кіраваўся ", што ў адпаведнасьці з п.1 Пастановы Пленума Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь № 4 ад 10. 04. 1992 г. "Аб судовым рашэньні " робіць яго незаконным.

Двойчы, 20 і 27 траўня 1998 года, судовыя выканаўцы Наваполацкага гарсуда сілай спрабавалі ўсяліць Ермакова В.Б.у кватэру Воранавай А.В. . І абодва разы праваахоўнік, які стаяў побач, быў гатовы ўспыхнуць сьвечкай. Але ў першы раз сьлесар адмовіўся ламаць замкі ў прыватызаванай кватэры, а Ермакоў сілай усяляцца ў яе, аб чым быў складзены акт. А ў другі – Ермакоў В.Б. увогуле не зьявіўся на прымусовае ў сяленьне, аб чым таксама быў складзены акт, і тады пачынаючая сваю прафісійную дзейнасьць маладая суддзя Сухоцкая І.Ф. зрабіла тое, што, па-першае, нічым іншым, як злачыннай правакацыей, якая мела цяжкія наступствы, не назавеш, па – другое, узьнікае пытаньне: навошта і каму гэта было патрэбна ?

Воранава А.В. і Філіпчанка А. І. сьцьвярджалі: гэта была помста старшыні суда Атрашкевіча В.П. за іхняе разаблачэньне кватэрнай афёры, у цэнтры якой ён знаходзіўся.

Суддзя Сухоцкая І. Ф., якая не мела абсалютна ніякіх

*Заканчэньне стар. 6*

законных падставаў, напярэдадні самога факта адміністрацыйнага правапарушэньня і адміністрацыйнай справы , накіроўвае Воранавай і Філіпчанку судовыя позвы, у якіх называе іх парушальнікамі і дае зразумець, што яны будуць прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасьці.

Былы "важняк", які раскусіў за сваё жыцьцё сьледчага не адну правакацыю "сілавікоў", адразу зразумеў, што іх запрашаюць на "суткі". Трапіць у камеру дзеля ўвесяленьня сваіх прававых апанентаў было зьверх яго сілаў і таму ў суд ён прыйшоў з трохлітровым слоікам бензіну.

Першай да суддзі Сухоцкай І. Ф. пайшла Воранава А.В. (чарговасьць была вызначана ў позвах). Як толькі яна ўвайшла ў кабінэт, ля дзвярэй стаў узмоцнены канвой, што паказвала на тое, што судовае рашэньне было прынята фактычна яшчэ да пачатку разгляду справы – чыноунікі пацяшаліся як маглі. Праз некалькі хьвілінаў Воранава А.В. згубіла прытомнасьць і звалілася на падлогу. Потым адна з урадавых газэтаў, са спасылкай на пракуратуру паведаміла, што гэта была інсцыніроўка. У наступную секунду у кабінет уляцела некалькі стражаў парадку... Але на судьдзю ніхто не нападаў, яна сядзела з фанабэрыстым і спакойным тварам. Нават на заклік патэлефанаваць у "хуткую" працягвала сядзець не крануўшыся зь месца ды толькі адказала: "У меня не работает телефон." Яшчэ праз некалькі хьвілінау урачы вывелі Воранаву А.В. пад рукі і пасадзілі у машыну, сьледам за імі на прыступкі будынка суда вываліў шматлікі канвой. Работнікі міліцыі бачылі, што Філіпчанка А.І. стаіць са слоікам бензіну, але іх прысутнасьць як бы казала: "Ну ідзі, ідзі да нас."

Але ён не пайшоў і не дазволіў наблізіцца да сябе нават свайму прадстаўніку.

"Яны не дакрануцца да мяне сваімі бруднымі рукамі", - спакойна сказаў ён і таропка стаў палівать сябе бензінам. Усяго некалькі крокаў заставалася да яго і тады можна было б паспрабаваць выбіць з рук слоік або яшчэ якім чынам перашкодзіць яму. Ён гэта разумеў, а таму сьпяшаўся. Толькі пасьля пстрычкі, якая пачулася зь ягонага боку, стала зразумелым, што у левай руцэ ён сьціскаў запальнічку. На гэты раз яна спрацавала безадмоўна - так бывае заўсёды, калі трэба наадварот. І ў наступную секунду вогненыя зьмей абхапіў яго цэпкімі абдымкамі і ўзьмятнўся ўверх да галавы, да ўжо немаладой , але ўсе яшчэ раскошнай шавялюры. А потым раздаўся вусьцішны крык...

Па факту зьдзейсьненага ў дачыненьні Воранавай і Філіпчанка злачынства і па факту бандзіцкім шляхам пазбаўленьня пеньсіі Генеральнаму Пракурору Беларусі накіраваны заявы. Раней па такіх заявах прыходзілі шчыра зьдзеклівыя адпіскі. Зараз няма нават іх. Улада адаптуецца да новых умоваў. Перакананы, што уладзе абсалютнай уседазволенасьці і беззаконьня прыдзе канец. Але самаспаленьнямі гэтую ўладу не прашыбеш. Таму навапалачанам, якія вырашылі паўтарыць акцыю А. Філіпчанка варта задумацца над гэтым і ў імя жыцця і справядлівасьці не рабіць гэтага.

29/07/98

Л.Сапранецкі,прыватны адвакат.

*Пераклад на беларускую мову Ул. Кунцевіч, В. Храмцоў.*

## ЛІСТ ЗА КРАТЫ

*Добры дзень, дарагі Аляксей!*

*У такім узросце, як твой, пэўна, хочацца атрымаць ліст ад равесьнікаў -сяброў і сяброваk. А мне на вочы ўсе больш трапляюцца лісты ад людзей больш сталых, які я.*

*Не хвалюйся, Алёша, што маўчаць равесьнікі, або пішуць мала. Яны проста недастаткова разумеюць цябе, твой стан. Магчыма, і паняцьці "Радзіма", "Бацькаўшчына", "Незалежнасьць", "Воля", "Правы чалавека", "Гонар", "Еднасьць", "Сумленьне" не маюць яшчэ для іх таго сэнсу, што ўкладаеш ты ў гэтыя словы.*

*Але ведай, сынку, што ты на правільным шляху, што за сваё жыцьце, калі яно й далей будзе такім , табе ня будзе сорамна. Чыстае сумленьне - гэта найкаштоўнейшы матэрыял, які заўседы будзе мець самую вялікую вартасьць у людзкім грамадзтве. Не змагацца за Бацькаўшчыну ў такі небясьпечны для яе час - гэта здрада, гэта ганьба. Дзякую табе, хлопчык, што бароніш і маеідэлы.*

*Здароўя, табе, моцнага, трываласьці і нязломнасьці.*

*З любоўю і павагаю- Н.Мялешка*

*г. Полацк*

### За Беларусь!

Чорная зграя топча Айчыну,
Пнецца зламаць нас, зьбіць, скатаваць.
Толькі адвага нас не пакіне:
Продкі-ліцьвіны ў сьлед нам глядзяць

Хопіць трываць ганьбу і зьдзек!
Стань, Беларусь, вольнай навек!
Хопіць цярпець гвалт і прымус!
Воля ці сьмерць! Жыве Беларусь!

Хэўуры бязроднай чорную зграю
Скінем рашуча з нашай зямлі,
Каб у незалежным сонечным краі
Жыць нам, як продкі калісь жылі!

Чорнай навале нас не адолець:
З намі Пагоня, з намі наш Сьцяг!
За Незалежнасьць, Праўду і Волю
Не пашкадуй ні крыві, ні жыцця!

*Віталь Равінскі*

## ПАДЗЕІ

### Крыж у Бельчыцы.

Полацкая Рада БНФ "Адраджэньне" правяла акцыю па ўшанаваньню памяці тых, хто загінуў падчас сталінскіх рэпрэсіяў.

Недалёка ад Бельчыцкіх могілак, на тым самым мейсцы, дзе каты з НКУС расстрэльвалі ні ў чым не вінаватых людзей (што адбывалася, дарэчы, пад чырвоным савецкім сьцягам), быў узьняты вялікі крыж з надпісам "Ахьвярам генацыду ад нашчадкау, якія ня страцілі памяць". Жалобную імшу па загінуўшым, што адбылася на беларускай мове, адслужыў вуніяцкі сьвятар.

Жудасная дэталь; крыж быў узьведзены менавіта на "мейсцы расстрэлу", бо магілай гэтае мейсца назваць нельга. Справа ў тым, што пясок з кар'еру, дзе адбываліся расстрэлы, разам з косткамі людзей пайшоў на будаўніцтва Маскоўскае шашы...

Але памяць народная ажыла. Так, яна даволі доўга спала, закалыханая чырвона-зяленай маной дзяржаўных чыноў, але зараз яна прачнулася й паўстала неўміручым беларускім шасьціканцовым крыжом над Бельчыцкімі могілкамі.

Гандрусь Стрэмка

## МОЛАДЗЬ І ЭКАЛОГІЯ



З 2-га па 7-е ліпеня адбыўся экалагічны летнік, у якім прымалі ўдзел маладзёвые арганізацыі г.Наваполацка – Наваполацкі аддзел Маладога Фронта і "Крок разам". Праграма фінансавалася Фундацыяй ISAR са Злучаных Штатаў Амерікі у межах праграмы "Сямёны дэмакратыі".

## ВОСЬМАЯ СТАРОНКА

### Польскае радыё па-беларуску !

У перадачах Беларускай службы вы пачуеце аператыуныя навіны з Польшчы, Беларусі ды Сьвету, каментары на актуальныя тэмы, інтэрв'ю з цікавымі людзьмі, культурныя рубрыкі, весткі з галіны навукі і тэхнікі, дзіцячыя выпускі. Вы таксама можаце павучыцца польскай мове на радыезанятках, перадаць музычнае прывітаньне ці віншаваньне родным і знаемым, паудзельнічаць у разнастайных конкурсах, паслухаць файную музыку...

Перадачы Беларускай секцыі ПР выходзяць некалькі разоў штодня. На кароткіх хвалях беларускамоуныя выпускі з Варшавы можна прымаць тры разы ў дзень. Першая перадача а 14.30 працягваецца 25 хвілінваў, дзьве астатнія ў 16.30 і 20.00 - 55 хвілінаў. Усе перадачы ідуць на хвалях у дыяпазонах 41 м ды 50 м.

Кожны тыдзень у рэдакцыю паступае багата пошты ад радыеаудыторыі, якая стала пашырацца.

Напісаць на Польскае радые можаце і вы.

Звязацца з беларускамоунай службай Польскага радые можна па адрасах: Юрась Корбан, а/с 5,

г. Віцебск, 210038; Redakcja Bialoruska, Program V, Polskie Radio, skr. Poczt. 46,00-977 Warszawa, Polska/Польшча.

### БЕЛАРУСКАЯ СЛУЖБА РАДЫЁ СВАБОДА ХВАЛІ І ЧАСТОТЫ

( ад 29 сакавіка 1998 )

18:00-19:30 - 7295, 9610, 11725, 11830, 41.31.25

22:00-23:30- 6105, 7295, 9535, 9750, 49, 41, 31

06:00-07:00-3985, 6065, 7295, 9635, 9750, 75, 49, 41, 31

У ПРАГРАМЕ

...мітынгі, дэманстрацыі, страйкі, галадоўкі, пікеты, пэсьці, арышты, суды, турмы, апазыцыя, улада, беларуская мова, рэгіёны, эканоміка, культура., гісторыя, беларусы ў сьвеце...

СПЭЦЫЯЛЬНЫЯ ПЕРАДАЧЫ:

Праскі акцэнт, Вострая Брама, Рэтраспэкцыі, Чытальная заля, Правы чалавека, Блізкая Эўропа, Неабжытая спадчына, Сымбаль веры,. Беларускія раздарожжы, Адукацыя за мяжою...

Паштовы адрас: 220005, Менск-5, п\с 111

## З ДНЁМ НАРАДЖЭНЬНЯ

Небходнасьць стварэньня рэсурснага цэнтра, які б займаўся дапамогай няўрадавым арганізацыям, у Наваполацку ўзьнікла даўно, і вось першага красавіка 1998 года прадстаўнікамі шматлікіх грамадзкіх арганізацыяў была ўтворана ініцыятыўная група, якой 29 красавіка 1998года было праведзена паседжаньне, на якім былі прынятыя неабходныя дакументы і заснавана Супольнасьць " Усяслаў Чарадзей ".

Большасьць заснавальнікаў Супольнасьці маюць багаты вопыт дзейнасьці ў няўрадавых арганізацыях,. што безумоўна паспрыяе плённай працы Супольнасьці " Усяслаў Чарадзей ".

Асноўныя мэты і задачы арганізацыі:

- духоўнае і культурнае адраджэньне Полаччыны, як часткі Беларусі;
- аб'яднаньне людзей дзеля практычнае рэалізацыі разнастайных грамадзкіх ініцыятываў накіраваных на нацыянальнае адраджэньне;
- пашырэньне сферы ўжытку беларускае мовы.:
- практычная дапамога рэалізацыі разнастайных грамадзкіх ініцыятываў;
- папулярызацыя грамадазнаўчых ведаў;
- стварэньне неабходных умоваў для самастойнае дзейнасьці, скіраванае на выкананьне статутовых мэтаў.
- пошук шляхоў супрацоўніцтва з прадстаўнікамі навукі, культуры, адукацыі, бізнеса, з прадпрыемствамі, арганізацыямі, аб'яднаньнямі і інш., скіраваных на дасягненьне мэтаў і задачаў Супольнасьці "Усяслаў Чарадзей":
- дапамога ў забеспячэньні зацікаўленых арганізацыяў (бібліятэкаў архіваў, сродкаў масавай інфармацыі ды іншых) інфармацыяй, друкаванымі выданьнямі, аўдыё-відэа-кіна-фотаматэрыяламі на ўмовах, якія задавальняюць інтарэсы Супольнасьці "Усяслаў Чарадзей";
- спрыяньне пашырэньню сферы ўжытку беларускае мовы і ўмацаваньню ейных прыярытэтаў;
- развіцьце традыцыйных беларускіх раместваў;
- захаваньне і развіцьцё этнічнага, культурнага і прыроднага патэнцыялу беларускіх земляў і беларускага народа;
- пошук і ініцыяваньне ўласных праектаў і праграмаў, распрацоўка варыянтаў іх выкананьня і прыцягненьня неабходных сродкаў;

Асобаў, якія зацікавяцца дзейнасьцю Супольнасьці " Усяслаў Чарадзей "і пажадаюць прыняць удзел у яе працы просім зьвяртацца па наступным кантакным адрэсам

211440, Наваполацак-6, а\с №45.

тэл./факс: (02144 ) 2-93-28

E-mail: rubon@usiaslau.lingvo.vitebsk.by

### Здравствуй, читатель!

Позволь на "ты". Если учесть, что в демократическом государстве предпринимательство составляет основу экономики, а экономика основу жизни людей, то новая газета- газета для каждого, а значит и для тебя. Но в первую очередь для предпринимателей.

*Менавіта так пачынаецца першы нумар бюлетэня Незалежнага Прафсаюза прыватных прадпрыймальнікаў г. Полацка і Наваполацка " Частный Предприниматель ", які выйшаў у верасьні гэтага года. Неабходнасьць падобнага выданьня невыклікае ніякага сумненьня, і таму з задавальненьнем чакаем наступнага нумара. Віншуем прыватрых прадпрыймальнікаў Полаччыны і рэдактара бюлетэня Валерыя Шаўчэнку.*

*Спадзяемся на шчыльнае супрацоўніцтва.*

# НЕКРАЛОГ №1

Месца зарэзервавана.

*ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ*
*Наваполацкай Рады БНФ*

*Выдавец: Наваполацкая Рада БНФ "Адраджэньне"*
*Галоўны рэдактар: Уладзімір Гацкі*

*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Адрас для допісаў и тэлефон з наступнага нумара.*
*Наклад: 299 паасобнікаў.*
*Распаўсюджваецца бясплатна на правах рукапісу.*
*Падпісана да друку 22.09.98.*

*За дакладнасць фактаў і лічбаў нясуць адказнасць аўтары.*
*Пры перадрукоўцы спасылка на "БЮЛЕТЭНЬ" абавязковая.*
*Думкі аўтараў могуць не супадаць з меркаваннем рэдакцыі.*